Год V. Сакавік-Красавік 1936 г. № 3-4 (51-52)




БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ
Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:




# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.


Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Сакавік-Красавік 1936 г. № 3-4 (51-52).

# Другі Дзень Вялікадня.

## *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
### *ПАВОДЛЕ СЬВ. ІОАНА РАЗЬДЗ. 1, 18-28, ЗАЧАЛА 2.*

*18. Бога ніхто ніколі ня відзеў; адзінародны Сын, каторы ёсьць у лоне Айца, той аб'явіў.*

*19. І гэтак вось пасьведчыў Іоан, калі Жыды выслалі да яго з Ерусаліму духоўнікаў і левітаў, каб запытацца ў яго: Хто ты ёсьць?*

*20. А ён прызнаўся і не затаіў, і прызнаўся, што ён ня ёсьць Хрыстос.*

*21. І пыталіся ў яго: Дык што-ж? Можа ты Ільля? І сказаў: Не! Можа ты прарок? І адказаў: Не.*

*22. Дык сказалі яму: Хто-ж ты такі, каб мы маглі адказаць тым, каторыя нас паслалі? Што скажаш сам аб сабе?*

*23. Сказаў: Я ёсьць голас, што кліча на пустыні: Праступйце дарогу Господаву, як сказаў прарок Ісайя.*

*24. А тыя пасланцы былі з фарысеяў.*

*25. І пыталіся яго і казалі яму: Чаму-ж ты хрысьціш, калі ты ані Хрыстос, ані Ільля, ані прарок?*

*26. Адказаў ім Іоан, кажучы: Я хрышчу вадою: пасярод-жа вас стаіць Той, каторага вы ня знаеце.*

*27. Ён ёсьць Той, каторы прыйдзе пасьля мяне, каторы стаўся перада мною: каторага я ня варты, разьвязаць рамень абутку ягонага.*

*28. Гэта было ў Віфабары, за Іарданам, дзе хрысьціў Іоан.*

---

*„Пасха, радостію другъ друга объимемъ, о Пасха, избавленіе скорби!“*
*(Сьціх. Пасхі)*

Мае дарагія браты і сёстры. Вялікдзень — гэта найбольшае ды вельмі радаснае сьвята. Кожны хрысьціянін чакае гэтага сьвята з вялікаю тугою ды праводзіць яго радасна.

Радуецца хрысьціянін таму, што Ісус Хрыстос перамог сьмерць; уваскрос з памёршых. Гэтая радасьць выяўляецца вонкавым спосабам у царкве ды ў хаце. Кожная цэрква на гэта вялікае сьвята прыбіраецца, служба служыцца ў сьветлых аблачэньнях з якнайбольшаю ўрачыстасьцю, асабліва сьпеў пабуджае да радасьці, напрыклад у сьціхірах сьпяваем: *„Красуйся, ликуй и радуйся, Іерусалиме, Царя Христа узрѣвъ изъ гроба.“* На словы ў часе пасхальнае Утрэні *„Пасха, радостію другъ друга обънмемъ“* усе цалуюцца на знак вялікае радасьці, перапаўняючай сэрца.

Мае найдаражэйшыя, на Другі Дзень вялікага радаснага сьвята скажу вам некалькі слоў аб радасьцях ды як павінны мы радавацца.

Чалавек ня можа жыць бяз радасьці, як расьлінка або краска без расы ды сонца. Кожны чалавек імкнецца цэлай сваей душой да радасьці, да шчасьця, аднак трэба ведаць, што розныя бываюць радасьці, ды не аднолькавая іх цана.

Як ува ўсіх справах, так асабліва і ў сваім імкненьні да радасьці чалавек мусіць кіравацца розумам асьвечаным Хрыстоваю навукаю, інакш, замест радасьці, атрымаем горыч ды нездаволеньне.

Розныя могуць быць радасьці:
духоўныя ды цялесныя,
сьвятыя ды грэшныя,
карысныя ды шкодныя для душы і цела,
трывалыя ды хутка мінаючыя.

Першае месца займаюць духоўныя радасьці, яны заўсёды сьвятыя, вельмі карысныя ды трывалыя. Духоўную радасьць мы адчуваем, калі зробім добры ўчынак, напрыклад, калі адведаем хворага, паможам яму ў яго бядзе, адчуваем унутранае здаволеньне, радасьць. Хто-ж з нас не адчуваў вялікай радасьці пасьля добра адбытае споведзі, пасьля прыняцьця Сьв. Прычасьця, — адчувалі мы нейкую палёгку на душы, цэлы сьвет нам здаваўся якімсьці мілым, прыемным. Таксама адчувалі мы няраз радасьць, унутранае задаволеньне, калі не паддаліся спакусе да граха, перамаглі яе.

Духоўную радасьць адчуваў Сьв. Францішак з Асыжу. Сэрца яго перапоўненае радасьцю, гэту радасьць вы-

яўляў у праслаўленьні Госпада Бога. Увесь сьвет для яго быў мілы, птушкі разам з ім праслаўлялі Госпада, нават дзікі зьвер—воўк для яго быў блізкім, называў яго братам.

Часта людзі сьвецкія думаюць, што жыцьцё набожнае сумнае, няма там ніякай радасьці. Такі пагляд хвальшывы, бо рэлігія хрысьціянская ня хоча забіваць радасьці жыцьця, ня проці праўдзівае радасьці, але толькі проці ілюзарнае радасьці, якая злучана з абразай Божай, проці радасьці грахоўнае. Рэлігія хрысьціянская вучыць, дзе ёсьць праўдзівая радасьць ды вядзе да радаснага жыцьця.



Сьвятая царква пабуджае нас да радасьці, столькі маем у працягу году сьвятаў, амаль усе яны пабуджаюць да радасьці. Запраўды, той чуецца шчасьлівым, хто жыве з Богам, мае чыстае сумленьне.

Адносна да радасьцяў цялесных можна сказаць, што ня ўсе абавязкава мусяць быць грэшныя. Могуць быць дазволеныя — добрыя, або недазволеныя — грэшныя. Ежа ды піцьцё, з натуры свае, даюць здароўе чалавеку, маюць уплыў на душу чалавека. На Вялікдзень кожны рупіцца,

каб ня было недастачы ў ежы. Калі ежа ды піцьцё ўжываецца ўмеру — гэта дазволена, ніякага няма там граха. Нажаль вельмі лёгка можа быць у цялесных радасьцях надужыцьце, ня кіруецца чалавек розумам, а цялеснаю чалавечаю натураю, таму бывае грэх. Часта бывае грэх абжорства, п'янства ды распусты. Калі радасьць грэшная, яна заўсёды хутка мінае ды шкодная для душы і цела.

Вялікдзень, вялікае сьвята радасьці, як часта праводзіцца зусім не пахрысьціянску. Замест праслаўленьня Госпада Бога, часта бывае ў вялікае сьвята Яго зьневажаньне. Напрыклад, прыдзе сьвята, з самае раніцы нап'ецца чалавек да п'янасьці і ляжыць цэлы дзень сьвята, як нерагатая скаціна. Якая-ж гэта радасьць, ці можна назваць гэткае жыцьцё радасным? О, не! гэта ня радасьць, а дурасьць. Ня лепш робіць распусьнік, дагаджаючы свайму целу, пасьля і сам ня рад з сваіх учынкаў, праклінае сябе ды сваё жыцьцё.

Чалавек заўсёды і ўва ўсім мусіць кіравацца розумам ды сумленьнем, а калі кіруецца цялеснаю прагавітасьцю, блудзіць, ня будзе шчасьлівым.

Возьмем, напрыклад, пацалункі пры хрыстосаваньні; такія пацалункі могуць быць „святымъ лобзаніемъ", паводле слоў Сьв. Паўла, а могуць быць ды часта бываюць грахоўным пацалункам, калі чалавек кіруецца цялеснаю прагавітасьцю.

Моладзь вельмі любіць патанцаваць, і скокі могуць абыйсьціся без граха, калі сабе патанцуе моладзь умеру, не працягаюцца скокі да познае ночы і калі ня служаць аказіяй да граха. Нажаль вельмі часта скокі канчаюцца грахом, замест радасьці родзяць нездаволеньне, шкодзяць целу ды душы.

Сьвята не на тое устаноўлена, каб людзі больш грашылі, больш абражалі Госпада Бога. Сьвята на тое Сьвятая Царква устанавіла, каб больш праслаўляць Бога, каб больш яго пазнаць ды любіць. Як-бы добра было, як-бы праўдзіва радасным, шчасьлівым чуўся чалавек, калі-б дбаў аб радасьцях духоўных. Радасьць духоўная, толькі праўдзівая радасьць — сьвятая ды трывалая. Госпад Бог нам не забараняе мець таксама і радасьці цялесныя, але тады толькі гэтыя радасьці будуць добрымі, калі будзем кіравацца розумам, калі ня будзе ніякай абразы Божай.

Хай-жа для кожнага Вялікдзень будзе запраўды радасным днём.

*„Сей день, егоже сотвори Господь, возрадуемся и возвеселимся въ онь."* Амін.

*а. Антоні.*

---

# Сьмерць Апостальскага Адміністратара Лэмкаўшчыны.

Уночы з 12 на 13 сакавіка памёр у Рыманаве Лэмкаўскі Ўладыка, а. д-р Васіль Масьцюх. Б. п. Уладыка Васіль радзіўся ў 1873 г. на Лэмкаўшчыне, у Новай-Весі каля Н. Сонча, дзе скончыў гімназію. Багаслоўе студыяваў у Львоўскім унівэрсытэце ды ў Вене. Юрыдычныя студыі дапоўніў у Рыме. На сьвяшчэньніка пасьвяціўся ў 1899 г. Ад 1903 да 1916 г. быў прафэсарам царкоўнага канонічнага права ў гр.-каталіцкай сэмінарыі ў Перамышлі; тады таксама выдаў вялікую сваю навуковую працу „Церковне супруже право“. У часе сусьветнае вайны быў арыштованы аўстрыйскай уладай і сядзеў у страшным Талергофе. Ад 1920 году быў сабе звычайным уніяцкім настаяцелем. Адтуль 17 лістапада 1934 г. Сьвяц. Папа Рымскі паклікаў б. п. а. д-ра Васіля на Апостальскага Адміністратара — Уладыку родных Лэмкаў.

Пахавалі б. п. Апост. Адміністратара на могілках у роднай вёсцы пад Сончам. На хаўтурох былі прадстаўнікі ад Іх Эмінэнцыяў—Кард. Пронунцыя і Кард. Прымаса Польшчы; быў гр.-каталіцкмі Уладыка з Перамышля Я. Экс. Коцылоўскі, быў р.-каталіцкі Япіскап з Тарнова Я. Экс. Лісоўскі; былі прадстаўнікі Ураду, як віцэ-ваявода з Кракава, мясцовыя старасты павятовыя і г. д. Духавенства было каля 40 сьвяшчэньнікаў. Былі таксама правадыры сьвецкага грамадзянства Лэмкаў.

Сьв. Літургія і адпяваньне ў паркве, а пасьля на могілках паніхіда і ўсё правілася паводле уніяцкага абраду; толькі пры канцы лацінскае духавенства адсьпявала „Libera“... Ад імя ўсіх Лэмкаў сьлёзна разьвітаўся з нябожчыкам адвакат Гнатышак...

**Вечная памяць першаму Ўладыцы Лэмкаў!**

Зараз па сьмерці б. п. Уладыкі Васіля быў назначаны тымчасовым кіраўніком Адміністрацыі Лэмкаўшчыны — а. Іван Полянскі, дасюлешні Канцлер пакойнага Ўладыкі Масьцюха.



# На прысадзе.

Раньняя вясна. Зямелька, звольненая з аковаў зімы, прачхнулася. Сьнег, як злодзей, таіўся незаметна па равох, кустох і густых амшарах, ня могучы вытрымаць на сабе цёплага пазіраньня вясеньняга сонца. Ручайкі, весела гамонячы між сабой, ішлі па адхонястых палёх навыперадкі. У паветры, прасякнутым вогкасьцю, аж зьвінела ад радаснай песьні жыцьця мілых зьвястуноў вясны — жаваранкаў.

Загуло жыцьцё ў вёсцы. Людзі сталі на ногі і весялей пачалі варушыцца.

Гаспадары, недавяраючы яшчэ надта раньняй вясьне, пачалі нясьмела, азіраючыся,выцягваць з падстрэшша і аглядаць прылады мазалістае працы, бо ўжо зямелька, адкрыўшы да сонца свае чорныя грудзі, чакала на пот аратага.

Сьвятам усё выходзіла на вуліцу — на сонца. Дзіцячы гоман насіўся па сяле ад раньня да вечара. Моладзеж звычайна сабіралася асобна, шумна і бязжурботна праводзячы сьвята.

Старэйшыя рассядаліся на сонцы з люлькамі ў зубох, там-сям на лаўках пад хатамі абсуджваючы бягучыя справы.

Але галоўным зборышчам для такіх справаў быў панадворак Максіма, без якога ня было з кім у вёсцы разумна пагаварыць. Дзеля таго Максімаў панадворак быў заўсёды сьвятам поўны людзей, тут вяліся найпаважнейшыя гутаркі і рашаліся ўсе галоўныя вясковыя падзеі.

Максім тут быў судзьдзёй, адвакатам і настаўнікам.

Чалавек сталы, гадоў пад сорак, здаровы, плячысты, як шула ў таку; бараду меў чорную, хоць валасы на галаве былі сьветлыя. Чорныя, густыя бровы, доўгія вусы і пранізьлівыя сівыя вочы рабілі яго несамавітым і сур'ёзным, хоць ён любіў веселасьць і жарты. Займаў калісь, пры старым рэжыме, становішча настаўніка народнай школы. Шмат дзе бываў і многа чаго ведаў. Любіў пагутарыць з людзьмі на розныя тэмы, расказаць якую цікавую гісторыю з прошлага ці сучаснага. Меў шмат усялякіх кніжак і выпісваў газэты, якімі „карміў" сваю вёску. Адным словам чалавек быў добры і разумны. Ня мог толькі сьцярпець хітрасьці і ненавісьці. А добра знаўся на людзях. І калі пачуе толькі аб якой подласьці на вёсцы, то ўжо справа канчалася тым, што вінаватыя хутка мірыліся, так ці іначай, бяз суда.

— Як гэта можа быць, — казаў тады, — каб наш народ, з крыві і косьці дабрадушны, мог такія сьвінствы рабіць ды цягацца за няма за што па судох, на сьмех людзям. Стыдна нам — лаяў — перад сьветам паказацца, што мы ў горы, у нядолі, адстаўшы далёка ад культурна прасьвечаных людзей, яшчэ грызёмся адзін з адным, замест узяцца да супольнай культурнай працы.

Любілі яго за гэта ў вёсцы і паважалі.

Толькі з а. Пракопам, з суседняе вёскі, не заўсёды патрапляў паладзіць. Бо няраз нават а. Пракоп называў яго „еретиком“ за неправаслаўныя пагляды, але Максім ня ўступаў.

— Трэба праўдаю жыць і не баяцца праўды, — казаў і далей сваё рабіў.

У Максімавым панадворку, на прысадзе, рух пачынаўся звычайна па абедзе, калі вернуцца ўсе з царквы, і калі пагода красуе прыгожа.

Вось і сягоньня, — ня ўсьпеў яшчэ Максім добра пабедаць, а ўжо мужчыны дымілі люлькамі пад яго хатаю.

— Сімон! Спаліш мне хату сваім паравозам, — гукнуў Максім да сівога зусім дзеда, у якога твару ня было відаць, бо ўсё было заросшы валасамі, а толькі люлька-гаршчок, слаўная на ўсю ваколіцу, дыміла, як цагельня, ў барадзе.

— Нічога, Максімка,—адказаў Сімон, выймаючы дзьвюма рукамі люльку з рота,—ужо, калі праз сорак гадоў нікога не спаліў сваей люлькай, то і цяпер не спалю.

Максім нічога не адказаў, бо заглядзіўся на чуды вясны, якая разгортвала ўсю сваю красу ў паабеднім сонцы.

— Эх, вясна! Маці мая родная! — весела адазваўся да мужчын, — каб не яна, дык чалавек страх-бы за нішто. Хоць табе цяжка і журботна прыходзіцца жыць, але, як толькі прыходзе вясна, то чалавек адраджаецца проста, весялей робіцца на душы, знаходзяцца сілы і ахвота да працы.

— Чудны дзелы Твае, Госпадзе,— зацягнуў на біблійны тон Антось Канцавы, быўшы калісь дзяк, — водзячы вачамі па сьветла-сініх далечах за возерам, і запусьціўся думкаю ў тыя часы мінулыя, недасяжныя, як тыя сінія далечы, калі, яшчэ будучы маладым, лоўка адпяваў у царкве сьв. п. а. Піліпу. Але ягоныя лятуценьні перарваў звонкі голас Максіма.

— Так, Антось! Чудныя дзелы Госпадавы, каб іх толькі людзі ня гнюсілі.

Усё кругом так хараша да цябе ўсьмяхаецца, так прыветна песьціць вока, што здаецца, дзе-ж тут можа прыткнуцца благоцьце? Але кінеш толькі вокам на жыцьцё цара зямлі — чалавека, то зараз робіцца нудна ў грудзёх ад гэтага малюнку.

Скольки-ж гэта ненавісьці і рознай брыдоты патрапіць натварыць разумнае стварэньне ў сваім жыцьці!

Вось возьмем, напрыклад, хоць-бы нашу ваколіцу. Праваслаўныя валяць, балоцяць каталікоў, каталікі праваслаўных, а да таго яшчэ уніяты ўмешваюцца і такім чынам паўстае ўзаемная грызьня разумных людзей, — а ўсе моляцца да Аднаго і таго самага Госпада ўсіх і просяць багаслаўленьня і ласкі да жыцьця.

А за што-ж будзе Госпад багаслаўляць людзей? Ці можа за іхнюю подласьць? Што адзін на аднаго воўкам глядзіць?

Не, брат! Бог за гэта ня будзе гладзіць нас па галаве. Гэта ўжо трудна і дарма!

— Калісь вось была ў нас унія. Хадзілі ў касьцёл ці ў царкву, як каму хацелася, і было добра ўсім, можа вось і цяпер ізноў палучацца? — адазваўся Саўка, прысадзісты мужчына.

—І напэўна злучацца,—пацьвярдзіў Максім, — як не самахвоць, то пад прымусам — з гора, але злучацца. — Пабачыце самі.

Сяньня сьвет наэлектрызованы. Бура з грымотамі вісіць у паветры. І калі вось ня злучымся ўсе ў адну праўдзівую братнюю Унію — адзін крэпкі фронт, то хай толькі чуць задзяруцца, а ўжо будзе па нас, усялякія бязбожнікі, масоны ды камуністы разарвуць нас на рызьзё і больш нічога. Гэта ясна, як гэтае сонца.

— Яно то добра было-б, каб вось людзі апомніліся ды злучыліся, але ўсе разам, бо паасобку лучыцца—да добрага не вядзе. Збольшваецца толькі калатня і расьце нязгода. А каб вось усе злучыліся ў адно, зрабілі ў адзін час сьяткі, ды дружна гукнулі да Бога па помач, то тады, я разумею, зьмяніўся-б лад жыцьця, была-б згода, была-б і сіла ў нас,— выразіў сваю думку вясковы стараста Грыгоры, каторы дагэтуль моўчкі сядзеў ды слухаў.

— Гэта ўсё добра, брат, але новага календара мы ня можам прыняць, бо ён неправаслаўны; я помню, як сяньня, калі а. Пілiп в. п. казаў, што ён гэрэтыцкі, — зачапіўся Антось Канцавы за календарныя парадкі, баронячы старога ладу.

Гутарка тым спосабам скіравалася ў другі бок. Мужчыны ў гэтых справах слаба орыентаваліся. Ніхто з іх не адважыўся штосьць сказаць на тэму гэрэтыцкасьці новага календара, бо верылі яшчэ словам нябожчыка а. Пілiпа. Чакалі, што скажа на гэта Максім. Ён звычайна мусіў рашаць усе задачы, падкінутыя мужчынамі.

Максім задыміў тоўстую, як палец, папіроску і, памаўчаўшы крыху, пачаў паясьняць календарныя гісторыі.

— Як гэта календар новы можа быць гэрэтыцкі? — казаў Максім. — Наш народ наагул разам з бацюшкамі — стыдна проста сказаць - ня можа ўцяміць таго, што вера ня ёсьць звон, паклон, кадзіла, крапіла ды календар такі ці гэтакі. Гэта ўсё ня мае нічога супольнага з вераю. Маем права кожны календар прыняць, абы толькі ён быў згодны з праўдаю і выгадны. Хрыстос ня вучыў Апосталаў, калі рабіць сьвяткі, у гэтым пакінуў людзям свабоду ўладзіцца так, як ім будзе лепей.

— Ну, а чаму-ж тады „пановаму“ мае быць лепей, як „пастарому“? — ўпіраўся Антось.

— Бо „пановаму“ йдзе рахунак згодна з прыродаю,— адказаў Максім.

Тут ён, каб вылажыць ясна справу календароў, мусіў перабегчы ўсю іх гісторыю ад пачатку.

У такіх справах ніяк ён ня мог пагадзіцца з а. Пракопам і ня мог перажыць цемнаты сваіх людзей у жыцьцёвых рэчах.

Хацелася яму разагнаць гэту цемнату ды так ці іначай падгатовіць да злучэньня ўсіх у адно, як было даўней. У гэтым бачыў ён спосаб ажыўленьня духовага, разумнага жыцьця, злучэньня ў адзін супольны фронт супроць бязбожжа. Догматычныя перашкоды ня мелі ў яго вачох, а тым больш у вачох народу, вялікае вартасьці. Калі даўней была стольскі гадоў унія, і праваслаўныя нічога не патрабавалі адкідаць са свае веры, то чаму-ж цяпер ня можна злучыцца нанова? Чаму-ж ня можна прызнаць Рымскага Папы над сабой? Папа — гэта ня нашыя вярхі, залежныя на кожным шагу ад ураду не заўсёды веруючых адзінак.

Там ёсьць сіла — парадак. Адно кіраўніцтва Царквы на ўвесь сьвет, гэта зусім натуральным здавалася яму і неабходным дзеля адзінства праўдзівае Царквы Хрыстовае. І ў гэтым ён ніяк ня мог памірыцца з тэорыяй сабрнасьці Царквы Хр. — праваслаўнай, каторая ня надта лоўка выказала сваю спраўнасьць у жыцьці.

Найбольшаю перашкодаю да злучэньня была цемната паняцьцяў аб розных абрадавых справах, каторыя браліся за самую веру. Трэба было гаварыць, расказваць па дзесяць разоў тое самае, каб што-небудзь прышчапіць. Вось так сама і з календарамі стаяла справа. Ужо ня раз гаварыў аб гэтым, але ня зусім удалося разьвеяць сумнівы сваіх людзей. „Трэба яшчэ гаварыць, можа калісь і будзе толк з гэтага“ — думаў Максім і, прыпаліўшы загасшую папіроску, пачаў:

— Быў час, калі людзі зусім ня зналі календароў і было добра. Але з часам захацелася ім рахаваць свой век жыцьця. Думалі, думалі, як-бы тут уладзіцца і выдумалі. Вось прырода сама прыйшла ім на помач. Ноч і дзень празвалі пароюі падзялілі на 24 гадзіны. Далей заўважылі, што месяц час ад часу стала перамяняе сваё аблічча. Вось і назвалі час ад першае зьмены да апошняе месяцам, а з іх зложылі год. Такім спосабам цяпер яшчэ жыды лічаць свой час. Гэты месячны календар — вельмі нявыгадны, бо адзін год мае часам 11 месяцаў, а другі 13 і г. д. Знайшлі тады лепшы. Вось прынялі за год адзін абег зямлі кругом сонца (а як даўней думалі сонца вакол зямлі), каторы мае 365

дзён з гакам. Гэты вось гак аднак-жа нарабіў людзям шмат клопату.

Куды яго падзець? Калі тут трэба рахаваць роўна днямі. Вось гэту задачу ў 46 годзе да Н. Хр. цар рымскі Юлій загадаў рашыць сваім астраномам.

Гэтыя-ж вучоныя, абдумаўшы добра ўсю справу, узялі за год час ад вясеньняга раўнаньня дня з ночай (21.III) да васеньняга. Час гэты, абыймаючы 365 дзён і 6 гадзін, падзялілі на 12 месяцаў па 31 і па 30 дзён у кожны. Аднаму (лютаму) нават выпала толькі 28 дзён. А каб у рахунку поўнымі порамі (суткамі) не замінаў гэты гак (6 гадзін), пастанавілі кожны чацьвёрты год лічыць не па 365, а па 366 дзён. Гэты лішні дзень пастанавілі дадаваць найбядней-шаму месяцу на пацеху. Таму вось люты праз тры гады мае 28, а на чацьвёрты год — 29 дзён.

Такім чынам паўстаў юліянскі календар, — той самы што ў нас у царкве ўжываецца і які мы завём „пастарому“.

Ужываньне гэтага календара ў Царкве зацьвярдзілі сьв. Айцы на Нікейскім Саборы ў 325 г., а ў Расеі ўвёў яго Пётра Вялікі ў 1700 г. і прыказаў рахаваць гады не ад пачатку сьвету, як было датуль, але ад Нар. Хрыста.

І было-б усё добра з календаром, каб вось юліянскія астраномы былі трохі мудрэйшыя і больш дакладна абдумалі ўсю справу. На скорую руку, відаць, ішла справа і таму перахапілі ў аблічэньні даўжыні году. Прынялі год даўжэйшым на 11 мінут і 14 сэкундаў, як ён ёсьць у прыродзе. Гэта лішка з часам што раз дык больш капілася, апазьняючы лічэньне гадоў згодна з прыродаю, у працягу кожных 128 г., на адзін дзень.

Так прайшло шмат часу, а гэта памылка не давала жыць астраномам, бо навука гэткіх памылак ня можа цярпець.

І вось папа Грыгоры XIII, бачачы гэты ненармальны стан рэчаў, загадаў правясьці рэформу старога календара.

Справа пайшла куды скарэй, чымсь на пачатку, бо ўжо цяпер астраномы куды болей ведалі, як даўней. І таму рэформа добра ўдалася.

Каб дагнаць у рахунку прыродныя зьявішчы, трэба было дабавіць цэлых 10 сутак, бо на столькі да таго часу спазьніліся.

Так і зрабілі. У 1582 г., замест 5-га кастрычніка, адразу паставілі 15-га, а каб не паўтарылася ізноў тая самая гісторыя, пастанавілі рахаваць у працягу кожных 400 гадоў ня 100 г. па 366, як было перад тым, а толькі 97 гадоў. Праз гэта выключылі, можна сказаць зусім, магчымасьць адстаць у лічэньні ад прыродных зьявішчаў, так што лічачы паводле гэтага рэфармаванага календара грыгорыянскага, або „пановаму“ — мы астанемся ад руху зямлі на адзін

дзень толькі ў працягу 3.320 г. Такая недакладнасьць у жыцьці не замінае.

Новы календар дзеля гэтага і быў прыняты на ўсім сьвеце.

А наш „старык“, як пазьніўся, так і позьніцца далей, так што сяньня, у 20-тым стагодзьдзі ён адстае аж на 13 дзён ад прыроды. Вось чаму сьняткі нашыя ня сходзяцца з каталіцкімі на 13 дзён.

А калі так далей патрывае, то нашыя Каляды апынуцца калісь аж у самую вясну.

Вось якія гісторыі з календарамі, — канчаў Максім. І што-ж яны маюць супольнае з вераю? Скуль-жа новы календар можа быць гэрэтыцкі? Скажэце?

Мужчыны маўчалі. І Антось, каторы бараніў стары парадак, аб чымсь думаў, відаць ня меў нічога проці сказаць.

Маўчаньне перарваў стары Сімон.

— Так,то так — адазваўся выняўшы свой вечна дыміўшы паравоз з рота, — але раз стары календар сабор зацьвярдзіў, то хто-ж можа яго нарушыць?

— Глупства гэта, — адказаў Максім, — ніякі сабор ня мае права зацьвярдзіць астранамічнай памылкі. Да гэтага сабор ня мае сілы. Гэта належыць да навукі, а не да нашае веры. Сабор таму прыняў гэты календар, бо тады лепшага ня было, і на тыя часы ён добры быў, але сяньня маем лепшы, дык чаму-ж той лепшы мае быць гэрэтыцкім?

Многа чаго калісь ужывалася і было добрым, але сяньня ўжо адкідаецца, як нядатнае да жыцьця. Такі ўжо парадак на сьвеце і дзеля таго няма чаго сумаваць, а трэба нам датарноўвацца да новых формаў жыцьця, калі хочам, каб нам было лепш жыць на сьвеце, — закончыў Максім гутарку і пайшоў у хату.

Разыйшліся і мужчыны, кожны ў свой бок, бо ўжо холад вячэрні браў за бокі.

*(д. б.).*

*І. Дубоўскі.*

---

# Ці-жбы наварот?

Дзіўныя весткі прыходзяць з „царства антыхрыста“. Кажуць, быццам, „чырвоныя таварышы“, выпрабаваўшы праз 20 амаль гадоў „цудоўныя ідэалы“ Карла Маркса, паварочваюць у сябе ў Расеі назад да „буржуйскіх“ старых парадкаў.

Ведама, што яшчэ летась скасавалі бальшавіцкія парадкі ў школах, бо ніякага толку ня было з навукі. Увялі ізноў экзаміны, так зусім, як „пры цару“...

Пасьля чулі мы, што бальшавікі ізноў увялі ваенныя чыны: гэнэралаў, маршалаў ды іншых вышэйшых і ніжэйшых ахвіцэраў. Парадуюць цяпер бальшавіцкія ахвіцэры з залацістымі пагонамі, ордэрамі і г. д. Так прыяжджалі і да Польшчы ў Гдыню летась. Ахвіцэры маюць „дзяньшчыкоў“, толькі горш і вастрэй з імі абходзяцца: бо цэрэгеляў у Бальшэвіі ня робяць. Пуцуюць на глянц „таварышы дзяньшчыкі“ боты сваім гэнэралам: пролетарыят-буржуям...

Цяперака яшчэ дзіўнейшыя насьпелі весткі. „Чырвоныя таварышы“ гатовыя „буржуям“ аддаваць зямлю на ўласнасьць. Верыць проста ня хочацца. Ды-ж у Бальшэвіі ўсё было сколектывізована, абсолютна ўсё агалошана дзяржаўным: зямля, коні, каровы, парасяты, куры, вазы, плугі, бароны, хаты, усё абсолютна належала да дзяржавы, было казённым, ніхто ня меў права назваць нічога сваім і распараджацца, як сваім. І раптам цяперака пішуць бальшавіцкія газэты: *„государствомъ признано право вечнаго владенія на землю и за отдельнымъ земледельцемъ“*. Ну, і як-жа гэта сталася? Галасілі столькі гадоў, што пры новым бальшавіцкім парадку настаў „рай на зямлі“, і раптам той „рай“ трэба рэфармаваць на стары буржуйскі лад! Што-ж гэта сталася? А проста „мужык“ нарэшце сказаў: „як зямля не мая, як коні не мае, як быдла не маё, як збожжа, што я засею, зьбяру ды вымалачу — не маё, а дзяржаўнае, належыць да камуны ці калхозу, — дык на што я маю працаваць? Хай камуна, як яна такая разумная, сама працуе“. І тады скора паказалася, што ані машыны, ані трактары, без самога селяніна, ані хлеба з зямлі не дадуць, ані скаціны з лугоў на мяса, ані што. Дык прыйшлося камуне і бальшавіком, спусьціўшы нос, абяцаць: „аддамо браток, зямлю на ўласнасьць, толькі працуй і кармі нас“.

Ня ведама, як і куды ўсё гэта зайдзець. Можа гэта якую „штуку“ строяць бальшавікі?... Хто іх ведае,—проста верыць трудна. Гэта-ж была-б проста самаліквідацыя камунізму. Але так пішуць (глядзі напрыклад стацьцю у „Нова Зоря“ за 12.III.36 пад назовам „До буржуазних забобонів“).

Факт адно, што Сталін ува ўсіх сваіх апошніх прамовах стала прызнае ўжо тры клясы, вартасных у Бальшэвіі, людзей: сялян, работнікаў ды інтэлігенцыю. Нядаўна таксама газэты падалі, што сяньняшні „чырвоны цар“ Масквы— Сталін скасаваў „Бальшавіцкую Акадэмію“ ў Маскве, якая існавала праз цэлы час, ад Леніна пачаўшы. Хіба ўжо самым бальшавіком стыдна сваіх акадэміяў?.. Дай Божа, каб яны пераканаліся ўрэшце, што і цэлы іхны бальшавіцкі парадак нічога добрага людзям не дае і даць ня можа. Хай і нашым людзям будзе згэтуль навука.

*Сьцяпан Чыфук.*

# Зьезд прадстаўнікоў каталіцкае прэсы.

3 і 4 сакавіка ў Доме Піуса XI ў Варшаве адбыўся зьезд рэдактароў каталіцкіх часапісаў, падтрымліваючых справы Каталіцкае Царквы. У гэтым зьезьдзе прынялі ўдзел таксама дырэктары дыецэзіяльных інстытутаў Каталіцкае Акцыі з дырэктарам Нач. Інстытуту А. К., кс. пралатам Броссам на чале. Агулам брала ўдзел на зьезьдзе 120 рэдактароў штодзеньнікаў, тыднёвікаў і іншых часапісаў. Зьезд адкрыў Я. Эм. Кс. Кардынал Ал. Какоўскі, Архіяпіскап Мітрапаліт Варшаўскі, сардэчна вітаючы прыбыўшых каталіцкіх журналістых у новым Каталіцкім Доме, каторы стане цэнтрам каталіцкага жыцьця і працы ня толькі архідыецэзіі, але і ўсей Польшчы. Затым Кс. Кардынал падчыркнуў плодныя вынікі першага зьезду рэдактароў каталіцкіх часапісаў, каторы прычыніўся да ўзгодненьня многіх паглядаў на справы нашага рэлігійнага жыцьця. У канцы Кс. Кардынал прасіў Я. Э. Кс. Япіскапа Адамскага аб кіраўніцтве зьездам. Першы рэфэрат аб „Інфільтрацыі бязбожніцтва ў польскую ўмысловасьць“ выгаласіў а. Ян Урбан Т. І. У канцы свайго грунтоўнага рэфэрату а. Я. Урбан падаў гэткія постуляты з мэтай процiўдзейнічаньня згубнай акцыі бязбожніцтва: 1) Стварэньне аднэй на ўвесь край эвідэнцыйнай цэнтралі для сьледжаньня ўсялякіх праяваў бязбожнічае прапаганды ці прыгатоўваньня да яе праз падкопваньне веры. Сьлядзіла-б гэта цэнтраля за часапісамі і кніжкамі яўна атэістычнымі, а таксама сьлядзіла-б за варожымі кірункамі для рэлігіі ў школьных падручніках, у навуковых расправах, у папулярнай навуковай літэратуры, у журналістыцы, у поэзіі і повесьці, тэатры, кіне, радыё, у выступленьнях палітычных дзеячоў, у загадах уладаў — школьных і адміністрацыйных.

2) У зьвязку з эвідэнцыйнай цэнтраляй мусіла-б паўстаць праўнае бюро; да яго належала-б прадкладаньне справаў карнаму паступаньню проці нападаў на рэлігію і Царкву, або зноў — паведамляць паасобныя адзінкі з кліру аб вымераных закідах проці іх,з мэтай абароны іх зьнеслаўляньня.

3) Процістаўляньне прапагандзе бязбожніцтва і прыгатоўваньню грунту пад яго пасеў праз прэсу. Абарона рэлігіі павінна быць конкрэтнай і актуальнай, г. зн. браць пад увагу тыя закіды, каторыя цяпер у курсе. З гэтай мэтаю эвідэнцыйная цэнтраля павінна пастарацца аб супрацоўніцтве найлепшых спэцыялістых у кожнай галіне веды тэолёгічнай і сьвецкай і даныя праз іх рады ці разьвязкі стаўляных проціў рэлігіі закідаў камунікаваць рэдакцыям каталіцкіх часапісаў.

4) Каталіцкая прэса, нават папулярная, павінна быць больш, чымсь дагэтуль, навуковай і крытычнай. Мусіць вы-

сьцерагацца легэндаў, няспраўджаных цудаў, падаваньня опініі прыватнай, як праўды абавязваючай, ці традыцыі, навукай падкапанай. Асьцярожнасьць у гэтым сэнсе зьяўляецца неабходнай, каб бязбожніцтву не дастаўляць здарэньняў дзеля новых закідаў проці царкоўнага навучаньня, дзеля асьмешваньня някрытычнасьці каталікоў.

5) Для абароны і ўмацненьня веры ўцягнуць у большай меры сьвецкіх, рэалізуючы кліч ,,апостальства сьвецкіх''. Каб аднак вырабіць кадры такіх абаронцаў, трэба імкнуцца да ўтварэньня, прынамсі ў большых местах, курсаў паглыбленьня знаньня рэлігіі. Такія курсы, штось у родзе тэолёгічных факультэтаў для сьвецкіх, мусілі-б сыстэматычна адукаваць у каталіцкай аполёгэтыцы, знаньні догматаў, этыкі і царкоўнай гісторыі. Існуючыя рэлігійныя арганізацыі мусілі-б прыняць характар школ рэлігійнага паглыбленьня і вытвараньня разумовай каталіцкай эліты.

Наступны рэфэрат пад загал. ,,Каталіцкая Царква і школа'' выгаласіў Я. Э. Кс. Япіскап Станіслаў Адамскі. Дастойны прэлегент прадставіў у сваіх вывадах становішча Каталіцкае Царквы ў галіне навучаньня і ўзгадоўваньня маладога пакаленьня, становішча польскай Konstytucyi і Конкордату, заключанага з Апостальскай Сталіцай. Неаднакротныя праявы добрай волі з боку кіраўнікоў дзяржаўнага карабля ў Польшчы да запэўняньня моладзі рэлігійна-моральнага выхаваньня, былі і ёсьць параліжаваныя школьнаю бюрократыяй, а перш за ўсё праз „Związek Nauczycielstwa Polskiego“ („Ognisko”). Радыкальнае і варожае настаўленьне да Каталіцкае Царквы на вярхох гэтай арганізацыі агульна вядомае і няраз было абгаворвана на старонках часапісаў „Zw. Naucz. Polsk.“, не агранічваецца яно ў сваёй дзейнасьці заданьнямі прафэсіянальнымі, але выходзіць за гэтыя граніцы. Абежнік б. прэм'ера і міністра В.Р.іА.П. праф. Бартэля аб рэлігійных практыках у школе, будучы лёгічным застасаваньнем констытуцыйных устаноў у жыцьці аб навучаньні рэлігіі, падлягаў і падлягае нэгацыі з боку „Zw. Naucz. Polsk.“ Такія самыя адносіны праяўляюцца ў галіне навучаньня рэлігіі ў школьных урадах, на чале каторых стаяць: куратар, інспэктар або візытатар, сябра Z.N.P. і верны выканаўца антыкаталіцкіх сугэстыяў гэтай арганізацыі. Агранічэньне гадзін навукі рэлігіі ў школе, варожыя адносіны да каталіцкіх арганізацыяў, падкопваньне падставаў рэлігіі атэістычнымі вучыцялямі — гэта выраз ляіцыстычных тэндэнцыяў, праніклых да нас з Францыі і знаходзячых у нашым школьніцтве сьляпых насьлядоўцаў.

Заклікам да прэсы, каб памагла бацьком і Царкве ў навучаньні і ўзгадоўваньні маладога пакаленьня, закончыў Кс. Япіскап свой рэфэрат. Па пярэрве дырэктар К.А.Р. кс. прал. З. Качынскі паінфармаваў прысутных аб працы поль-

скага камітэту ў прыгатаўленьні на Міжнародную Выстаўку Каталіцкае Прэсы ў Ватыкане. Выстаўка адчыніцца 12 траўня б. г., а сусьветны зьезд каталіцкіх журналістых у Рыме — 18—21 траўня б. г. Па рэфэраце адбылася ажыўленая дыскусія.

---

## Сумныя падзеі ў Дубечне.

У Дубечне, Ковельскага павету, большасьць парафіян у 1927 годзе прыняла Сьв. Унію. Царква з прыходзкаю зямлёю ды будынкамі таксама перайшла пад уладу Каталіцкае Царквы. Праваслаўныя стараліся адсудзіць царкву ад уніятаў. Суд ува ўсіх інстанцыях прысудзіў царкву за уніятамі. Не памаглі спосабы легальныя, узяліся браты праваслаўныя за спосабы нелегальныя: некалькі разоў папрабавалі сілком царкву алабраць, але гэта ім не ўдалося.

Апошні раз зрабілі напад на царкву 26 студня г. г.: калі а. Настаяцель В. Грош хацеў замкнуць царкву, грамада людзей праваслаўных, для большай адвагі падпоеных гарэлкай, стоячы ў дзьвярох, не хацела пазволіць замкнуць царкву, дамагаліся, каб ім аддаў а. Настаяцель ключы ад царквы; а. Грош ключоў ім ня даў. Калі крыху адхіліліся, пацягнуў дзьверы да сябе ды замкнуў знутры. З а. Настаяцелем замкнёныя былі з 10 прыхаджан, прасядзелі ў царкве аж да вечара, прыехала паліцыя і разагнала нападаўшых.

Рэзультат гэтага нападу быў той, што 9 асоб паліцыя арыштавала ды пасадзіла ў вастрог.

Тымчасам, паведамленая Курыя Япіскапа Луцкага, выслала свайго дэлегата да Дубечна а. А. Неманцэвіча. У часе бытнасьці дэлегата здарыўся ўночы 1 лютага пажар. Гаспадарскія будынкі з усіх бакоў хтосьці падпаліў, у полымі пажару ўся маемаць згарэла, нічога не ўдалося выратаваць. Згарэла 8 кароў, 2 коней і жарабя, 1 сьвіньня з 8 парасятамі, куры і ўся нярухомая маемасьць.

Хто падпаліў — невядома, а напэўна хтосьці з праваслаўных, помстуючы а. Настаяцелю арышт папярэдняга дня 9 асоб.

З тых 9 асоб 3 звольнілі, а 6 сядзяць да суда. Напэўна суд дасьць кожнаму найменш па 2 гады вастрогу. Спаткае кара і тых, што падбурвалі; падазрэньне падае на праваслаўнага бацюшку ў Дубечне. Суд выясьніць справу ды пакарае вінаватых.

Кожны чалавек такі спосаб барацьбы напэўна асудзіць, як дзікі ды нялюдзкі. Што вінавата бедная скаціна, за што яе мучыць ды паліць жыўцом? Тыя, што дапусьціліся гэтага ліхадзейства, зашкодзілі перш за ўсё праваслаўю, а не Сьв. Уніі.

*Злучэнец.*

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Маладыя героі.

У ірляндзкім каталіцкім журнале апісана здарэньне, якое было ў бальшавіцкай Расеі летам 1921 году.

Недалёка ад Петраграду (цяпер Ленінград) ёсьць вёска, у якой быў каталіцкі касьцёл. Шмат чаго перацярпела гэтая вёска ў часе рэвалюцыі. У канцы ўсяго касьцёл замкнулі, а ксяндза выслалі. У вёсцы засталося толькі некалькі каталіцкіх сем'яў. Аднак для бальшавікоў гэтага было мала. Пастанавілі з касьцёла зрабіць казарму.

Гутаркі „начальства“, каб абярнуць касьцёл у казарму, моцна трывожылі некаторых каталіцкіх дзяцей. Балюча застукацелі маладыя сэрцы. Гэта-ж у касьцёле, у аўтары, прабывае Госпад наш Ісус Хрыстос у постаці хлеба! Гэтыя чырвоныя салдаты напэўна яго зьняважаць. Трэба бараніць Ісуса Хрыста!

Ня ведалі яны, што ксёндз забраў з сабою Ісуса з пакіненага касьцёла. Былі пэўныя, што Ісус знаходзіцца там і пастанавілі бараніць Яго.

Даведаўшыся, што бальшавікі хочуць заняць касьцёл на другі-ж дзень раніцаю, дзеці залезьлі ўночы цераз прыадчыненае вакно ў касьцёл, селі на сходачках аўтара і, молячыся ўсю ноч, ня спалі...

Раненька прыйшлі бальшавікі, выламалі дзьверы і ўварваліся ў касьцёл. Зьдзіўленыя глядзелі яны на сядзеўшых каля аўтара дзяцей. Востра прыказалі ім зараз-жа выйсьці з касьцёла. Але дзеці не крануліся з месца. Прыказалі ім паўторна і таксама без рэзультату.

— Што гэта значыць? — закрычаў павадыр банды, — выходзьце зараз-жа, бо прыкажу страляць!

Не памаглі і пагрозы. Дзеці ня слухалі. Прытуліліся толькі адно да аднаго і чакалі адважна, гледзячы на скіраваныя да іх рулі стрэльбаў... Лягло забітымі двое дзяцей. Ізноў ім было прыказана выйсьці з касьцёла. Тады адзін з хлопчыкаў, тулячы да сябе сваю маленькую сястронку, сказаў за ўсіх:

— Калі-б вы нават усіх нас пазастрэльвалі, не аддамо Ісуса! Целамі нашымі загародзім вам дарогу да аўтара!

Апошнія словы яго заглушыў гук стрэлаў. З усьмешкаю на вуснах і з радасьцю ў нявінных вочках упаў малады герой ля ног Госпада свайго. Парасстрэльваны былі ўсе. Раненых, сплываўшых крывёю, вынясьлі іх з касьцёла.

Маленькі герой яшчэ жыў. Расплюшчыў вочы і прашаптаў:

— Мамачка...

— Што, дзеткі?

— Ці абаранілі мы Ісуса? — зашаптаў ён. — Ці не адважыліся абясславіць Яго?...

І слабым голасам расказаў, што бачыў ён Ісуса Хрыста, Каторы стаў сярод іх і багаславіў іх.

Праз некалькі мінут, шчасьліва ўсьмяхаючыся, ён прашаптаў яшчэ: — „Абаранілі мы Ісуса“ — і сканаў.

Гэта былі яго апошнія словы.

Дзеці, якія аддалі жыцьцё ў абарону Сьвятых Дароў — героі!



# Хроніка.

## З ПОЛЬШЧЫ.

**Дубно.** Перад Вялікаднем Я. Пр. Уладыка Мікалай пасьвяціў двох новых сьвяшчэньнікаў з Папскае Сэмінарыі— Яфіма Мельнічука і Антонія Пакота, і аднаго на дыякана з „Боболянум“(Люблін) Іоана Літвінскага Т. І. Новапасьвячаным рэдакцыя „Да Злучэньня“ жадае ад шчырага сэрца ўсяго найлепшага на „Многія Леты.“

Для бедных жыхароў м. Дубна Сэмінарыя выдае абеды, каля 140 абедаў у дзень.

**Альбэртын.** У Альбэртыне паўстала 1 тэатральнае аматарскае кола, пад кіраўніцтвам а. Настаяцеля П. Бужака; ужо было пастаўлена 2 прадстаўленьні, адно папольску, а другое пабеларуску. Пры царкве ёсьць парафіяльная саля ды чытальня, з якой карыстае шмат людзей.

**Пракурорскае абвінавачаньне проці фабрыкантаў разводаў.** Прэса і пацярпеўшыя асобы вельмі часта зьвярталі ўвагу на дзейнасьць бюра разводаў, каторае залажыў правадыр сэкты т. зв. старакаталіцкай царквы Уладзімер Фарон. Даючы разводы ўсім, хто да яго зьяўляўся, зразумелая рэч, без якіх-небудзь упраўненьняў і без адбыцьця развадовага працэсу, Фарон падвёў многіх асоб пад моральную крыўду і матар‘яльныя страты, бо ані дзяржаўная ўлада, ані суды не маглі прызнаць разводаў і шлюбаў фаронаўскіх. З развадовай процэдуры Фарон чэрпаў відавочныя зыскі. Пры выраблянiні разводаў інтэрасанты ўносілі пэўную суму грошай, а рэшту сплачвалі месячнымі ратамі. Акты судовага сьледзтва проці Фарона і іншых функцыянэраў сэкты абыймаюць 8 тоўстых томаў. Досыць хутка пракуратура Акружнога Суда ўлажыла акт абвінавачаньня і ў найбліжэйшых месяцах справа Фарона знойдзецца на судовым форуме. — Як падае „II. Kurjer Codzienny,“ апрача Фарона, пацягнуты таксама да адказнасьці гэткія функцыянэры сэкты: Ул. Тушыньскі з Замосьця, Юры Чэрвіньскі з Пшчыны, Альфонс Пюр з Кракава, Сьцяпан Колянка, Station Станіслаў Коц, Язэп Вільнэр, Анатолі Цыбульскі, Адам Юргелевіч, Ян Цыран, Сэбастыян Гусік і іншыя.

**Грэка-каталіцкае набажэнства ў львоўскім радыё.** У „Польска-Украінскім Бюлетыне“ № 6 зьмешчаны артыкул п. з. „Польскае Радыё, Украінцы і чырвоныя хвалі,“ абгаворваючы справу надаваньня сталых грэка-каталіцкіх набажэнстваў праз львоўскае радыё падчас грэка-каталіцкіх сьвят і нядзеляў, у часе некалідуючым з каталіцкімі набажэнствамі лацінскага абраду. З увагі на паважную лічбу

абонэнтаў сярод грэка-каталіцкага насельніцтва ў львоўскай радыёстанцыі і на Каталіцкую Акцыю ў Польшчы, справа гэтая заслужвае на зразуменьне.

**Конфэрэнцыя з душпастырамі ўсходня-славянскага абраду.** 9 студня ў Седлецкай Дыецэзіяльнай Курыі пад кіраўніцтвам Я. Э. Кс. Япіскапа Падляскага Др. Гэнрыка Пшэздзецкага адбылася конфэрэнцыя са сьвяшчэньнікамі ўсходня-славянскага абраду. На конфэрэнцыю прыбыло 9 настаяцеляў парафіяў усх.-славянскага абраду, каторыя наперад прыслалі ў Курыю адказы на пытаньні аб лічбовым стане верных усх.-славянскага абраду ў парафіях, аб жыцьці і працы рэлігійных арганізацыяў і брацтваў, а таксама аб стане сьвятыняў. На конфэрэнцыі разглядалася тое, што датычыла адказу на вышэйшыя пытаньні. Асабліва ажыўленая дыскусія паўстала пры пытаньні: што трэба рабіць, каб паглыбіць рэлігійнае жыцьцё верных і разьвіць унійную справу? Найдастойнейшы Архіпастыр, закрываючы конфэрэнцыю, моцна заахвочваў душпастыраў, каб дакладалі сіл і ўжывалі ўсіх годных спосабаў да паглыбленьня рэлігійнага жыцьця верных свайго абраду і для разьвіцьця унійнай справы.

**Новая ніва працы А. А. Рэдэмпторыстаў.** У Вільні маюць асесьці А.А. Рэдэмпторыстыя. Жадаюць яны пасьвяціцца працы сярод найбяднейшых прадмесьця Вільні.

**Айцы Кармэліты старажамі Вострай Брамы.** 1 лютага б. г. Я. Э. Мітрапаліт Віленскі, Архіяпіскап Р. Ялбжыкоўскі пераказаў царкву сьв. Тэрэсы і Вострабрамскую Капліцу закону А.А. Кармэлітаў Босых. У зьвязку з гэтым адбылося ўрачыстае набажэнства, ў каторым, апроч духавенства, бралі ўдзел масы верных.

**Памылковае паняцьце аб уніі.** У прамове з аказіі дэбатаў над бюджэтам Мін. В. Р. А. П. сэнатар Тэрлецкі выступіў процíў унійнай, акцыі і абвінаваціў яе ў русыфікацыі. Як відаць з гэтага выступленьня, унійная справа ў вялікай ігнорацыі ў нашых дзяржаўных Мужоў.

Калі-б запраўды гэтая акцыя шырыла русыфікацыю, то напэўна-б царская Расея не прасьледавала-б яе і не ліквідавала-б яе сілай, узмацняла-б яе і падтрымлівала-б. Калі ходзіць аб палітычны характар уніі, то яго ілюстрацыяй можа служыць Мартыролёгіум Падлясься.

Унія не займаецца палітыкай, ей ходзіць аб больш важнейшую і сьвятую ідэю злучэньня ўсіх да адзінства.

**50 гадоў працы Конвікту ў Хырове (1886 - 1936).** У гэтым годзе мінаець 50 гадоў ад залажэньня Конвікту А.А. Езуітаў у Хырове. Першым рэктарам быў а. Хрысьціян.

З тых, якія бралі чынны удзел у адкрыцьці Конвікту, жывець яшчэ 9 А.А. Езуітаў. Першым кандыдатам у гэты конвікт быў Балеслаў Скальскі, які быў родам з вёскі Падгайцы, павету Ніжанковічы.

У працягу гэтых гадоў у гэтым конвікце знайшлі выхаваньне у духу Божым 6000 выхаванкаў. Да 8 клясы дайшло 1006, з іх усіх памёрла 148, а 48 згінулі на вайне.

## ЗА ГРАНІЦАЙ

**Амэрыканскі місіянэр будуе ў Маскве каталіцкую царкву.** Як ведама, ўрад Злучаных Штатаў, навязваючы дыплёматычныя адносіны з Саветамі, зажадаў поўнай гарантыі рэлігійнай вольнасьці для сваіх грамадзян, прабываючых у Расеі. Карыстаючы з гэтага, амэрыканскі місіянэр а. Броун, каторы прабывае пару гадоў у Маскве, мае замер у найбліжэйшым часе прыступіць да будовы каталіцкае царквы. Адначасна бадай маюць замер выбудаваць сьвятыню, прабываючыя цяпер у Маскве Амэрыканцы пратэстанскага веравызнаньня. Вышэйуспомненыя уступкі савецкіх уладаў, каторыя ня толькі што забараняюць будаваньне Божых дамоў, але замыкаюць пад абы якім прэтэкстам ужо істнуючыя сьвятыні, не азначаюць, што рэлігійныя прасьледаваньні скончыліся ў Саветах. Гэта толькі адзіная уступка, коштам навязаньня дыплёматычных адносін, каторыя, калі ходзіць аб злучаныя Штаты, можа найбольш як калі, цэняцца Саветамі, каторыя рыхтуюцца да вялікай расправы з Японіяй.

**Імкненьне да злучэньня з Каталіцкай Царквой.** Пратэстанскія духоўныя ў Амэрыцы што-раз часьцей выражаюць сваё жаданьне прылучыцца да Каталіцкае Царквы. Напрыклад апошнім часам 29 духоўных Нью-Ёрку выдалі адозву, зазначаючы выразна, што толькі Рым можа і мусіць быць цэнтрам, у каторым зродзіцца адзінства і адраджэньне хрысьціянскіх сіл. Дай Божа, каб усе як найскарэй прызналі гэту нязьбітую праўду!

**Праступнае пастунаньне ў Мэксыцы.** Дзейнасьць мэксыканскага ўраду можна азначыць адным словам: д'ябальская. Довадам гэтага ёсьць такія факты: Ад 1926 г. забіта 300 сьвяшчэньнікаў, а сьвецкіх каталікоў, ад 1929 г. каля 5.000. Антыцаркоўныя дэкрэты адцялі 7 мільёнаў каталікоў ад Царквы, пазбаўляючы іх духовай помачы сьвяшчэньнікаў. З 14 мэксыканскіх штатаў выдалены каталіцкі клір. У працягу чатырох гадоў урад замкнуў 265 цэркваў.

**Каталіцкі фільм.** Каталіцкая Акцыя ў Францыі паслугоўваецца фільмам і радыям пры пашырэньні рэлігійнае

прапаганды. Кс. Каффарэль мае да сваё дыспозыцыі фільмовую агенцыю „Lumen," як таксама надаўчую станцыю „Radio Familie." Усе могуць там карыстаць з гэтых сродкаў, нават найбяднейшыя. Запрапанована настаяцелям высьвятляць каталіцкія фільмы, каб даць магчымасьць моладзі карыстаць з гэтак людзкае забавы. Калі-б так і ў нас выкарысталі гэты залаты сродак нашых часоў, напэўна выннікі былі-б плодныя.

Па дзесяцёх гадох выходзіць наверх, хто быў прычынай забойства прэз. Обрэгона ў Мэксыцы. — Не каталікі, якіх у гэтым падазравалі, а сам былы прэз. Calles выдаў загад забойства. Падобную сцэну выправіў калісь Нэрон. Calles стане цяпер перад судом.

**Назначэньні ў Ватыкане.** Сьв. Айцец назначыў кардынала Массімі старшынёй Камісіі кодыфікацыі канонічнага права Усходняе Царквы, а кардыналаў Салотті і Боэтто сябрамі гэтай-жа камісіі.

З гэтых назначэньняў відаць, што Сьв. Айцец урад старшыні і сэкратара сьв. Конгрэгацыі Усходняе Царквы, які быў дасюль у руках памёршага кардынала Сінчэро, разьдзяліў.

**Пратэст Апостальскага Нунцыя ў Бэрліне.** „Maasbode" даносіць, што Апостальскі Нунцы ў Бэрліне энэргічна выступіў з пратэстам проціў благога трактаваньня справаў Царквы; як даносіць гэта-ж газэта арцыбіскуп Орсеніго перадаў нямецкаму ўраду ноту Ватыкану, у каторай вылічаны ўсе гвалты і крыўды каталікоў.

**Пад харугвай сьв. Францішка.** У гэтым годзе агалошана статыстыка А.А. Францішканаў. Па гэтай статыстыцы закон А.А. Францішканаў лічыць 104 правінцыі, 2.012 дамоў і 24.482 сябры. У гэтай лічбе няма яшчэ кандыдатаў т. званых „juwenatай" якіх ёсьць 9318. Найбольшай ёсьць правінцыя голяндзкая, што мае 1.173 сябры. Другі закон францішканскі „Клярыйскі" лічыць 13.589 сяброў. У трэцім законе злучаным 1.112 сяброў мужчын 81.707 сяброў жанчын.

Да гэтай лічбы трэба далічыць 2 мільёны тарціераў.

**Кангрэс унійнай царквы ў Чэхаславакіі.** Каталіцкая арганізацыя „Апостальства сьв. Кірылы і Мяфода," якая паўстала яшчэ перад вайной, дзякуючы Япіскапу славацкаму Сломсэку і кс. Стояну (які ў 1920 годзе застаўся арцыбіскупам Оломунца) працуець над зьбліжэньнем цэркваў: каталіцкае і праваслаўнае. Гэта-ж арганізацыя мае намер сабраць кангрэс уніі цэркваў з 15 да 19 ліпня бяг. году.

Кангрэс гэты мае адбыцца ў горадзе Вэлеградзе, у якім, як вядома, прабываў сьв. Мяфоды апостал славян. Усе ранейшыя кангрэсы адбываліся таксама ў Вэлеградзе, а было іх 6. Сёлетні кангрэс мае за заданьне спэцыяльна ўшанаваць памяць сьв. Мяфода з аказіі 1050-лецьця яго сьмерці.

Пытаньні будуць траякія: дагматычныя, літургічныя і гістарычныя. Тры маюць быць і сэкцыі гэтага кангрэсу. Старшынёю кангрэсу мае быць Архіяпіскап Оломунца мгр. Прэцан.

**Кошт утрыманьня праваслаўных інтэрнатаў.** „War. Dziennik Narodowy“ падаець справаздачу Найвышэйшага Кантролю Гаспадарства, дзе парушана справа ўтрыманьня праваслаўных выхаванкаў у грамадзкіх інтэрнатах. Урад памаёвы выбудаваў на Празе спэцыяльны будынак для інтэрнату праваслаўных алюмнаў. Гадавы кошт утрыманьня аднаго выхаванка быў у 1932-33 г. — 1.537 зл., ў 1934-35 —1.635.

Урадовых інтэрнатаў для каталіцкіх алюмнаў няма. — Выясьняем, што скарб, праўда, даець дотацыю на духоўныя сэмінарыі ў суме 59 зл. 12½ гр. (709 зл. ў год) для кожнага алюмна. Параўнуем гэтыя сумы і ўбачым, што утрыманьне каталіцкага алюмна каштуець гаспадарству палавіну таго, што каштуець утрыманьне праваслаўнага алюмна.

## Усячына.

**Польскія праваслаўныя багаслужэньні.** Ведама ўсім, што ад нейкага часу праваслаўны Мітрапаліт у Польшчы — Дзяніс увёў у праваслаўных цэрквах праваслаўныя набажэнствы — між іншым і сьв. Літургію — папольску, замест славянскай мовы. Тымчасам у Варшаве папольску, — як кажуць, — адпраўляецца толькі ў дзяржаўныя дні. У Беластоку, здаецца, часьцей. Таксама праваслаўнае духавенства на Холмшчыне (часткова) дамагаецца багаслужэньня папольску. Ня хочам тут тымчасам разьбіраць, якія матывы прымусілі праваслаўнага Мітрапаліта на гэты шаг — ці палітычныя, ці рэлігійныя, ці якія іншыя?

У Варшаве будзе пару дзесяткоў тысяч праваслаўных, а ў Саборы ў нядзелю 200—300 асоб (ня лічачы войска, якое прыводзяць з казармаў). Цікава, што з гэтага ўсяго будзе?

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.